# КНІГАРНЯ

ВЫДАЕЦЦА З 1988 г. | № 7/62 | Май 1994 г. | КОШТ НУМАРА: па падпісцы 75 руб., у розніцу 150 руб.




## «БЕЛАРУСКАЯ КНІГА—94»

**Майскую выставу беларускай кнігі адкрыў першы намеснік міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь С. А. НІЧЫПАРОВІЧ.**

Ён паведаміў, што ў гэтай складанай эканамічнай сітуацыі, у якой апынулася выдавецкая справа на Беларусі (і не толькі выдавецкая), у першы месяц II кварталу выдадзена кніг 229 назваў, што на 62 назвы менш, чым у сакавіку 1994 года. Пры гэтым іх агульны тыраж павялічыўся з 7,7 да 8,2 мільёна экземпляраў.

Станіслаў Антонавіч адзначыў, што як бы складана ні было, дзяржаўныя выдавецтвы захавалі выпуск сваёй прадукцыі на ўзроўні мінулага года.

**— Калі гаварыць аб тэматычных напрамках выпушчанай літаратуры,— падкрэсліў С. А. Нічыпаровіч,— і стэнды з новымі кнігамі гэта добра паказваюць, стала больш выходзіць сацыяльна-значымай літаратуры, добрых і цікавых кніг для дзяцей і юнацтва. І наадварот — зменшылася колькасць такіх выданняў, якіх вельмі многа раней выпускалі недзяржаўныя выдавецтвы. Гэта літаратура дэтэктыўнай тэматыкі, прыгодніцкага жанру і гэтак далей. І сведчыць гэта аб тым, што сёння выдаўцы павінны вельмі ўважліва ставіцца да тэматыкі выдаваемай літаратуры і выбіраць менавіта тое, чым сёння цікавяцца людзі, тыя кнігі, якія могуць знайсці свайго пакупніка.**

**Першы намеснік міністра культуры і друку Рэспублікі Беларусь адзначыў сярод яркіх і значных выданняў новую кнігу Уладзіміра Арлова «Таямніцы полацкай гісторыі», якая выйшла ў выдавецтве «Беларусь», другое выданне альбому «Іканапіс Беларусі», якое таксама здзейсніла гэтае выдавецтва, хрэстаматыю для вучняў 10 класа «Родная літаратура» (выдавецтва «Мастацкая літаратура»).**

**— На сённяшні дзень для агульнаадукацыйнай школы са 128 падручнікаў, запланаваных у выдавецтве «Народная асвета» на 1994—95 навучальны год, выдадзена ўжо 93. І гэта неблагі рытм,— падкрэсліў С. А. Нічыпаровіч.— Ён практычна адпавядае плану выпуску падручнікаў.**

Станіслаў Антонавіч адзначыў той добры рабочы рытм, які захоўваецца ў выдавецтвах «Беларуская Энцыклапедыя» імя П. Броўкі, «Беларусь», «Народная асвета», «Юнацтва» і іншых дзяржаўных выдавецтвах.

Ён падрабязна праінфармаваў выдаўцоў аб тых напрамках і накірунках, якія праводзіць Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь дзеля таго, каб у рэспубліцы палепшылася выдавецкая справа. Адзін з іх прадугледжвае адмену падатку на імпарт паперы і паліграфічных матэрыялаў, якія выдаючыя арганізацыі вымушаны набываць за мяжою. Гэта дасць магчымасць значна зніізіць сабекошт выпускаемай прадукцыі.

**У рамках выставы адбылася прэзентацыя новай кнігі Уладзіміра АРЛОВА «ТАЯМНІЦЫ ПОЛАЦКАЙ ГІСТОРЫІ».**

Уладзімір Аляксеевіч расказаў, як стваралася гэтая кніга пра славуты і старажытны Полацк, горад яго дзяцінства, пра людзей, якія натхнялі яго, дапамагалі яму. У кнізе мы прачытаем гэтыя імёны. І, безумоўна, аўтар не мог не ўспомніць свайго сябра архітэктара-рэстаўратара Валерыя Слюнчанку, які рэстаўраваў Сафійскі і Багаяўленскі сабор і іншыя полацкія помнікі... Цяпер ужо яго няма на свеце... Аўтар шчыра дзякуе і народнаму дэпутату Беларусі Уладзіміру Цялежнікаву, якому ўласна належыць ідэя выдання гэтай кнігі, і які ўнёс на яе выданне першы ўзнос ад Полацкай асацыяцыі дзяржаўных прадпрыемстваў «Ініцыятыва».

Уладзімір Арлоў шчыра падзякаваў супрацоўнікам выдавецтва «Беларусь», усім людзям, хто дапамагаў яму ў працы над кнігай.

Рэдактар кнігі Эрнэст Нікіфаравіч Гнеўка адзначыў выданне кнігі «Таямніцы полацкай гісторыі», як вялікую і значную падзею ў культурным жыцці рэспублікі.

**— Такія кнігі вучаць любіць і паважаць нашу Бацькаўшчыну, нашу Беларусь яе народ, яе славутую гісторыю.**

Леанід КЛЫШКО.

*Беларусь, твой народ дачакаецца*
*Залацістага яснага дня.*
*Паглядзі, як усход разгараецца,*
*Скольki ў хмарках залётных агня...*

Максім БАГДАНОВІЧ



*На гэтым свеце існуе жорсткая заканамернасць: людзі-таленты або пакутуюць доўга і празмерна пры жыцці, або сыходзяць заўчасна з гэтага свету ў іншы...*

*Людзі пакідаюць нас.*

*Але застаецца іхні талент.*

*Застаўся нам у спадчыну талент і Максіма Багдановіча: талент любіць Радзіму — высока, пяшчотна, глыбока.*

*Светлая памяць светламу чалавеку.*

## *ПОМНІК МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ Ў МІНСКУ*

Ішоў таропка і здалёку —
Ад стэпаў, неабдымных вокам.
Ішоў дамоў, дамоў!

Вачам прасторна. Сэрцу цесна —
Балюча ў ім трымцела песня
Слязамі родных слоў.

Ішоў таропка і здалёку
На шэпт крыніцы, бусла клёкат
І роднай мовы гук.
«Хутчэй, хутчэй!..»
І ён спяшаўся.

І новай песняй суцяшаўся
І адганяў тугу.

Прыйшоў. Дайшоў да нас. Да дому.
У парку стаў — забыў пра стому:
Пяшчотай абдало.

Вачамі поўнымі любові,
Святло радзімы прагна ловіць
І выпраменьвае святло...

Таццяна ДЗМІТРУСЁВА

## *Што? Дзе? Калі?*

**2 ЧЭРВЕНЯ Ў МІНСКУ ЛЯ ПОМНІКА МАКСІМУ БАГДАНОВІЧУ адбудзецца адкрыццё II Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі.**

**ДАГАВОР аб супрацоўніцтве ў галіне культуры паміж Рэспублікай Беларусь і Славацкай Рэспублікай падпісаны 12 мая ў Мінску. З беларускага боку яго падпісаў міністр культуры і друку Рэспублікі Беларусь Анатоль Іванавіч Бутэвіч, са славацкага — міністр культуры Любо Роман.**

Дагавор прадугледжвае абмен мастацкімі выстаўкамі, гастролямі лепшых прафесійных калектываў і тэатраў.

**20 МАЯ Ў ЖЫРОВІЧАХ, У СВЯТА-УСПЕНСКІМ МАНАСТЫРЫ** (Слонімскі раён) **прайшло святкаванне 500-годдзя з'яўлення Жыровіцкай Іконы Божай Маці і 520-годдзе з дня заснавання манастыра. Ва ўрачыстасцях прыняў удзел Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Францавіч Кебіч.**

**23 МАЯ Ў МІНСКУ ПРАЙШЛІ ДУХОЎНА-АСВЕТНІЦКІЯ ЧЫТАННІ ПАМЯЦІ СВЯТОЙ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ. У гэтай акцыі прынялі ўдзел прадстаўнікі духавенства, навуковых колаў, пасольстваў і міністэрстваў. Людзям, якія шмат зрабілі ў галіне навукі, мастацтва, культуры, народнай адукацыі, уручаны ганаровыя граматы. Жаночы фонд імя Еўфрасінні Полацкай пры падтрымцы фонду Сораса — Беларусь выпусціў кнігу «Святая Еўфрасіння Полацкая». Духоўна-асветніцкія чытанні», куды разам з матэрыяламі аб жыцці вялікай беларускай асветніцы, увайшлі яе Жыціе і акафіст.**

**23 МАЯ Ў СТАЛІЧНЫМ ДОМЕ ЛІТАРАТАРА адбылася сустрэча членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі з калегамі па пяру з брацкай Балгарыі. Так у нашай рэспубліцы пачалося святкаванне ДНЯ СЛАВЯНСКАЙ ПІСЬМЕННАСЦІ І КУЛЬТУРЫ, якi адзначаецца ў Балгарыі як нацыянальнае свята.**

**Супрацоўнікі пасольства Рэспублікі Балгарыі 24 мая наведалі 198-ю сярэднюю школу горада Мінска, вучні якой вывучаюць балгарскую мову. У той жа дзень Пасол Балгарыі ў Беларусі Марка Ганчаў арганізаваў святочны прыём. У ім прынялі ўдзел кіраўнікі дзяржавы, відныя дзеячы беларускай навукі і культуры, прадстаўнікі творчых саюзаў, члены таварыства дружбы Беларусь—Балгарыя.**

## *ПАВАЖАНЫ ЧЫТАЧ,*

мы не будзем прасіць у Вас прабачэння з-за таго, што, на жаль, не выйшлі ў свет яшчэ два нумары «Кнігарні». І робім гэта мы не таму, што няўважліва і няветліва ставімся да Вас, а таму, што ўжо няёмка ў каторы раз вініцца перад Вамі — нашым добрым і верным сябрам, — таму, што віны нашай перад Вамі няма. Чыя віна? Аднаму Богу ведама... Словы прабачэння не гаворым. Словы ўдзячнасці — так, вымаўляем.

Дзякуй Вам, паважаны чытач, за вернасць.

І спадзяемся, што сябрамі з Вамі ўсё ж застанемся.

Падпіска працягваецца.

Паведамляем, што кошт падпіскі на газету «КНІГАРНЯ» на III квартал 1994 года — 600 рублёў; на адзін месяц — 200.

Індэкс — 63864.

З павагаю — супрацоўнікі рэдакцыі газеты «КНІГАРНЯ».

## ГРАМАДСКІЯ НАВУКІ. ГІСТОРЫЯ

БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ АБРАДЫ / [Склад., навук. рэд., прадм. Л. П. Касцюкавец; Маст. А. І. Карповіч].— Мн.: Беларусь, 1994.— 126, [2] с.: іл., нот. іл.— Б. ц., 25 000 экз.

БЕРАСЦЕЙСКІЯ КАРАНІ: Гіст. краязн. і літ зб. / Рэдкал. А. Касько (гал. рэд.) і інш.— Брэст.: Упр. інфарм. Брэсц. аблвыканкама, 1993.— 242, [1] с.: іл.— (У пер.): Б. ц., 3000 экз.

ГЕРАСЮК И. Рулетка власти.— Мн.: 000 «Алинес», 1994.— Б. ц., 30 000 экз.

ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ М. В. Гісторыя Беларусі / Беларус. Энцыкл., Нац. архіў Рэсп. Беларусь; [Пер. з рус. мовы Т. М. Бутэвіч і інш.; Прадм. Дз. У. Караў, Я. І. Бараноўскі].— Мн.: БелЭн, 1994.— 509, [2] с.; партр.— (У пер.): Б. ц., 10 000 экз.

ЗАКАНАДАЎЧЫЯ АКТЫ АБ ДЗЯРЖАЎНАЙ СІМВОЛІЦЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ [Склад. А. А. Трусаў, І. К. Лазавікоў; Пер. тэкстаў на англ. мову А. Я. Ільіч, фр. мову М. І. Захарэвіч, ням. мову І. Ф. Вабішчэвіч; ісп. мову А. І. Мельнікаў].— 2-е выд. дап.— Мн.: Беларусь, 1994.— 88, [7] с., (—) [2] л. іл.— Б. ц., 15 000 экз.

КАК ПОЛУЧИТЬ ПАТЕНТ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ? (Консультации специалистов Белгоспатента по вопросам охраны пром. собственности) / [Сост. Баркун Н. А. и др.].— Мн.: Б. и., 1993.— 102, [1] с.— Б. ц., 3000 экз.

ЛИКУМ А. Всё обо всём: Попул. энцикл. для детей: [Пер. с англ.] — М.: Компания «Ключ — С»: Филол. о-во. «СЛОВО»: ТКО «АСТ»; Мн.: Фирма «Валев», 1994.— (В пер.): Б. ц., 100 000 экз.
[Т. 1 / Пер. с англ. Е. А. Каминская и др.; Науч. рэд. В. В. Славкин].— 1994.— 510, [1] с.: ил. Т. 2 / Пер. с англ. В. Е. Винакурцева и др.; Науч. ред. В. Славкин].— 1994.— 510, [1] с.: ил. Т. 3 /Пер. с англ. А. А. Кременчугский и др.; Науч. ред. Б. М. Дроняев].— 1994.— 541, [1] с.: ил.

НАЙДЗЮК Я., КАСЯК І. Беларусь учора і сяньня Папул. нарыс з гісторыі Беларусі /Т-ва беларус. мовы імя Ф. Скарыны; [Уклад. Н. Дашкевіч; Пасьлясл. А. Грыцкевіча].— Мн.: Навука і тэхніка, 1993.— 413, [1] с.: іл.— (У пер.): Б. ц., 10 000 экз.

РОЗАНОВ А. А., ШАРАПО А. В. Безопасность: подходы Запада.— Мн.: Універсітэцкае, 1994.— 124, [2] с.— Б. ц., 505 экз.

## ФІЛАСОФІЯ. ПСІХАЛОГІЯ. РЭЛІГІЯ

КЕМПИЙСКИЙ Ф. О подрожании Христу: [Духов. руководство] / Перевод с латин. К. П. Победоносцева.— М.: 000 «Гендальф»; Мн.: 000 «Мет», 1993.— 219 с.— (В пер.): Б. ц., 5000 экз.

КНІГА ЖЫЦІЙ І ХАДЖЭННЯЎ: [Пер. са старажытнарус. старабеларус. і польскай / Уклад., прадм. і камент. А. Мельнікава; Навук. рэд. царкоўнаславянскіх тэкстаў і іх пер. В. Чамярыцкі.].— Мн.: Маст. літ., 1994.— 503 с., [18] л. іл.: іл.— (Літаратурныя помнікі Беларусі).— (У пер.): Б. ц., 13 100 экз.

РЕРИХ Е. И. Письма Елены Рерих, 1928—1938: (В 2 т. Т. 1 / Предисл. ко 2-му изд. Л. В. Шапошниковой].— Мн.: Изд-во «Сергей Тарасевич», 1994.— 442, [2] с., [9] л. ил., портр.— (В пер.): Б. ц., 13 000 экз.

ФИЛОСОФИЯ: Крат. курс лекций: [Учеб. пособие / Сост. И. П. Мамыкин].— Мн.: Эноперспектива, 1994.— 78 с.: схем.— Б. ц., 1000 экз.

## АДУКАЦЫЯ. МЕДЫЦЫНА. ТЭХНІКА

ДАРАШКЕВІЧ М. П., САКЛАКОЎ І. І., Патафізіялагічныя аспекты захворванняў нырак.— Мн.: Навука і тэхніка, 1994.— 43, [2] с.: іл.— Б. ц., 500 экз.

ДАНИЛЕНКО Б. П., МАНКЕВИЧ И. И. Отечественные и зарубежные магнитофоны: схемы, ремонт: Справ. пособие.— Мн.: Беларусь, 1994.— 616, [1] с.: ил.— (В пер.): Б. ц., 80 000 экз.

КОНЮШКЕВИЧ М. И., КОРЧИЦ М. А., ЛЕЩЕНКО В. А. Синтаксис русского и белорусского языков: Сходство и различия: Пособия для учителя.— Мн.: Нар. асвета, 1994.— (Библиотека учителя русского языка).— 157, [1] с.— Б. ц., 18 000 экз.

КОПТЕВ Н. И. Земля до и после потопа.— Гомель: ГОСПО Беларуси, 1993.— 320 с.: ил.— Б. ц., 10 000 экз.

КОРТИКОВ В. Н., КОРТИКОВ А. В. Справочник народной медицины.— Мн.: МП «Белмаркет», 1993.— 237, [2] с., [8] л. ил.— Б. ц., 100 000 экз.

ЛАРИОНОВ Б. А., ЛАРИОНОВА С. Р. Соединись с природой: Уник. система оздоровления П. К. Иванова для вас.— Мн.: Полымя, 1994.— 62, [2] с.: ил.— Б. ц., 50 000 экз.

ЛАВРИНЕНКОВА М. Т., КОВАЛЕВА Е. С. Практический материал по пунктуации: 8—11-е кл.: Пособие для учителя.— Мн.: Нар. асвета, 1994.— 158, [1] с.— Б. ц., 38 000 экз.

РУСАКЕВИЧ П. С. Когда беременеть нежелательно.— Мн.: Беларусь, 1994.— 41, [2] с.: ил.— Б. ц., 40 000 экз.

СЛОБОЖАНИН В. П. Земское самоуправление в Беларуси (1905—1917 гг.) /Ин-т философии и права АН Беларуси.— Мн.: Изд. Гавриленко, 1994.— 83, [2] с.— (Социальная история отечества).— Б. ц., 1000 экз.

СТАРЖЫНСКАЯ Н. С. Сябруем и гуляем разам: [Дыдакт. гульні і іх роля у навучанні і выхаванні дзяцей шасці год.].— Мн.: Нар. асвета, 1994.— 78, [1] с.— 360 р., 79 00 экз.

ЯТУСЕВІЧ А. І., КАПЛІЧ В. М. Слоўнік заапаразіталагічных тэрмінаў /Т-ва беларус. мовы імя Ф. Скарыны. Тэрмінал. каміс.— Мн.: Навука і тэхніка, 1993.— 290, [1] с.: іл.— (У пер.): Б. ц., 3000 экз.

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА. ДАМАВОДСТВА

АНТИПОВ В. Г., ГУНЯЖЕНКО И. В. Определитель древесных растений.— Мн.: Выш. шк., 1994.— 484, [2] с.: ил.— (В пер.): Б. ц., 2240 экз.

ГРЫБ В. К., ПОЛЯНСКИЙ В. П. Оператору по выращиванию и откорму свиней.— Мн.: Ураджай, 1994.— 124, [3] с.: ил.— Б. ц., 1500 экз.

МАЦВЕЕЎ В. А. Сліва ў вашым садзе.— Мн.: Ураджай, 1994.— 62, [2] с.: іл.— Б. ц., 10 000 экз.

ПАЛМЕР Д. Ваша собака: (Практ. руководство по выбару и уходу за собакой] / Пер. с англ. М. Н. Ковалевой; Под ред. К. К. Панютина; Предисл. В. Е. Соколова].— М.: Мир; ПКК «БСВ и К», 1993.— 166, [1] с.: ил.— (В пер.): Б. ц., 80 000 экз.

СЕМЕНОВОДСТВО ПОЛЕВЫХ КУЛЬТУР / [Свиридов М. Ф., Лаврукович В. А., Щеглов И. Я. и др.]; Под ред. С. И. Гриба.— Мн.: Ураджай, 1994.— 253 с.— Б. ц., 1000 экз.

ШПАГИН М. В. Приспособления и поделки на садово-огородных участках.— Мн.: Ураджай, 1994.— 128, [32] с.: ил.— Б. ц., 30 000 экз.

ШУИН К. А., ЗАКРЕВСКАЯ Н. К., ИППОЛИТОВА Н. Я. Огород с весны до осени.— Мн.: Ураджай: МП «Оракул», 1994.— 255, [1] с.: ил.— (В пер.): Б. ц., 200 000 экз.

## МОВАЗНАЎСТВА. МАСТАЦТВА. ФІЛАЛОГІЯ

БЕЛАРУСКАЯ МОВА: Дапам. для абітыруентаў / [Э. Д. Блінава, Н. В. Гаўрош, М. Ц. Кавалёва і інш.].— 2-е выд., дапрац. і дап.— Мн.: Выш. шк., 1994.— 223, [1] с.— Б. ц., 50 000 экз.

ХОЗЕРОВ И. М. Белорусское и смоленское зодчество XI—XVI вв. — Беларускае і смаленскае дойлідства XI— XVI стст.— Мн.: Навука і тэхніка, 1994.— 149, [2] с. [16] л. ил.— (В пер.): Б. ц., 1700 экз.

## МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА

### БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА

АКСАК В. І. Капліца: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 110, [1] с.— Б. ц., 2200 экз.

ВЕРАМЕЙЧЫК У. М. Местачковы секс: Апавяданні і гумарэскі / Маст. А. Гармаза.— Мн.: Б. в., 1994.— 31 с.: іл.— (Бібліятэка «Вожыка»; № 1(223).— Б. ц., 5000 экз.

ВЕТАХ А. І. Рожавая знічка: [Аповесць, апавяданні].— Мн.: Полымя, 1994.— 94, [2] с.: партр.— (Бібліятэка часопіса «Маладосць»; № 2 (68). — Б. ц., 1810 экз.

ГЛЕБУС А. Скрыжаваньне: Вершы.— Мн.: БАДППР; РВФ «Ковчег», 1993.— 46 с.— (Ковчег).— Б. ц., 3000 экз.

ДУКСА М. М. Валуны на пагорках: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 238, [1] с.— Б. ц., 1500 экз.

КАПУСЦІН А. П. А салаўі ўсім спяваюць... Аповесці, апавяданні.— Мн.: Маст. літ., 1994. — 333, [2] с.— (У пер.): Б. ц., 9000 экз.

МЫСЛІВЕЦ В. Ц. Жывым і нашчадкам: Аповесці.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 438, [2] с.: іл.— (У пер.): Б. ц., 4200 экз.

ПРЫХОДЗЬКА П. Каляровыя халады: Вершы, паэмы, балады.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 182, [1] с.: партр.— Б. ц., 2200 экз.

### РУСКАМОЎНЫЯ ВЫДАННІ

БЕЗ ЛИЦА В ЛИЧИНЕ: Старинные и современ. загадки /Сост. Л. М. Сукач.— Гомель: ИПП «Сож», 1993.— 319, [1] с.— Б. ц., 20 000 экз.

ГАНКИН Б. А. Верность свету: Стихи.— Мн.: Маст. літ., 1994.— 141, [1] с.— Б. ц., 1900 экз.

ДИКАЯ РОЗА: Роман по одноим. телесериалу: [Перевод / Авт. лит. версии А. Альварес, Е. Александров].— Мн.: 000 «Старый Свет-Принт», 1994.— 605, [1] с.— (В пер.): Б. ц., 100 000 экз.

СМИРНОВА М. С. След на земле: Стихи разных лет.— Жлобин: Б. и., 1993.— 111, [1] с.: портр.— Б. ц., 5000 экз.

ТАРАСОВ К. Три жизни княгини Рагнеды; Милость для атеиста; Заложники успеха: [Повести: Для ст. шк. возраста / Оформл. И. Демковского, А. Кожановского].— Мн.: 000 «Коллегиум», 1994.— 444, [2] с.: ил.— (В пер.): Б. ц., 50 000 экз.

ЦЫБИН Ю. Е. На ветру: Стихи.— Мн.: РИФ «Ковчег», 1993.— 63 с.: портр.— Б. ц., 3000 экз.

## СІГНАЛЬНЫЯ ЭКЗЕМПЛЯРЫ

У СПІС УКЛЮЧАНЫ КНІГІ, СІГНАЛЫ ЯКІХ ПАСТУПІЛІ ЗА АПОШНІ ЧАС У НАЦЫЯНАЛЬНУЮ КНІЖНУЮ ПАЛАТУ БЕЛАРУСІ

## ЗАМЕЖНАЯ ЛІТАРАТУРА

ГОТЬЕ Т. Капитан Фракасс: Роман / [Пер. с фр. Н. Касаткиной].— Мн.: Беларусь, 1994.— 474, [2] с.: ил.— (В пер.): Б. ц., 50 000 экз.

КИНСЕЙЛ Л. Цветы из бури-Flowers from the storm: [Роман: Пер. с англ.].— Смоленск: Фирма «Русич»; Мн.: Фирма «Глоса».— 1994.— 478, [1] с.— (Алоярова).— (В пер.): Б. ц., 50 000 экз.

МАКБЕЙН Э. Полицейский участок. Романы / Перевод с англ. С. Б. Белова.— Гомель; Агенство «ВЕДА» — РИФ», 1994.— 429, [2] с.— (В пер.): Б. ц., 50 000 экз.

ПЕНДЛТОН Д. Вендетта по лас-вегасски; Кошмар в Нью-Йорке: Детектив. романы / [Пер. с англ. Г. Л. Холявского, О. А. Ломовского].— Мн.: 000 «МЕТ», 994.— 363, [2] с.: ил.— (Цикл «Коза Ностра». Серия «Палач». — Т. 3).— (В пер.): Б. ц., 50 000 экз.

ПОЛСТОН А. Санта-Барбара II: Зарубеж. кинороман: В 3 кн.: [Пер. с англ. / Лит. обраб. текста Л. Л. ФАЙНБЕР и др.; Худож. А. А. Богуш).— Мн.: Фирма «БАДППР», 1994. — (Hollywood).— Продолжение романа Г. Крейна.— (В пер.): Б. ц., 100 000 экз.
Кн. 1.— 505 с.
Кн. 2.— 478 с.
Кн. 3.— 446, [1] с.

ХААНПЯЯ П. Боты дзевяці салдат: Раман: З фін. / [Пер. з фін. мовы і ўступ. слова. Я. Лапаткі].— Мн.: Маст. літ., 1994.— 218, [2] с.: іл.— (У пер.): Б. ц., 6000 экз.

ЧЕЙЗ Д. Х. [Избранные произведения: В 2 т.: Пер. с англ. / Сост. Г. А. Шаранговіч].— Мн.: Маст. літ., 1994.— (Зарубежный детектив). Т. 2: Саван для свидетелей: Романы.— 472, [2] с.— (В пер.): Б. ц., 90 000 экз.

## ДЗІЦЯЧАЯ ЛІТАРАТУРА

АДАМЧЫК В. У. Чужая бацькаўшчына: Раман: [Для ст. шк. узросту / Маст. А. І. Карповіч].— Мн.: Юнацтва, 1994.— 333, [1] с., [1] л. партр.: іл.— (Школьная бібліятэка).— (У пер.): Б. ц., 20 000 экз.

БУССЕНАР Л. Капитан Сорви-голова: [Повесть] / Луи Буссенар. Гамбусино: [Роман: Для сред. и ст. шк. возраста] / Гюстав Эмар. [К сб. в целом: Пер. с фр. К. Полевого, Э. Леонидовой; Худож. В. В. Гладкевич].— Мн.: Юнацтва, 1994.— 460, [3] с.: ил.— (В пер.): Б. ц., 90 000 экз.

ВЕЛТИСТОВ Е. С. Новые приключения Электроника: Фантастич. повести: [Для сред. шк. возраста /Худож. Д. Е. Дивин, В. Г. Мищенко].— Мн.: Універсітэцкае, 1994.— 445, [1] с.: ил.— (В пер.): Б. ц., 100 000 экз.

ГРИММ Я., ГРИММ В. К. Белоснежка и семь гномов: [Сказка: Для детей] /Братья Гримм; Худож. С. Алейник.— Гомель: МП «Таволга», 1993.— [24] с.: цв. ил.— Б. ц., 50 000 экз.

ДАЛІДОВІЧ Г. В. Заходнікі: Раман: [Для ст. шк. узросту / Маст. М. У. Чуднікаў].— Мн.: Юнацтва, 1994.— 236, [1] с. — (У пер.): Б. ц., 12 000 экз.

КАРИЗНА В. И. Хитрый и мудрый: Стихи, поэмы, сказки, загадки, небылицы: [Для докш. и мл. шк. возраста / Перевод с белорус. И. Бурсова; Худож. А. Александрович.— Мн.: Юнацтва, 1994.— 222, [1] с.: цв. ил. - (В пер.): Б. ц., 8000 экз.

МАКСИМЕНКО Ю. И. Сказки старого дома: [Для дошк. возраста / Худож. С. Г. Ноздрин-Плотницкая).— Гомель: МП «Таволга», 1993.— [26] с., включ. обл.: цв. ил.— Б. ц., 20 000 экз.

НЕВЕРОЯТНЫЕ И УДИВИТЕЛЬНЫЕ ПРИКЛЮЧЕНИЯ ТОМА И ДЖЕКА: [Сказки: Для дошк. и мл. шк. возраста] / Пер. с англ. К. Коровкиной; Худож. оформл. Т. Растатуева, Н. Новичихина].— 189, [1] с.: цв. ил.— (Мои любимые книжи).— (В пер.): Б. ц., 100 000 экз.

ПАСТЕРНАК Б. Л. Избранное: [Стихи и поэмы: Для ст. шк. возраста / Худож. Е. И. Лис].— Мн.: Юнацтва, 194.— 333, [1] с., [1] л. портр.; ил.— (Школьная библиотека).— (В пер.): Б. ц., 16 000 экз.

## Даты. Імёны. Падзеі

**1 ЧЭРВЕНЯ — МІЖНАРОДНЫ ДЗЕНЬ АБАРОНЫ ДЗЯЦЕЙ.**

**5 ЧЭРВЕНЯ — СУСВЕТНЫ ДЗЕНЬ АХОВЫ НАВАКОЛЬНАГА АСЯРОДДЗЯ.**

**— 140 гадоў з дня нараджэння Ю. М. Пэна (1854—1937), беларускага жывапісца, педагога.**

**7 ЧЭРВЕНЯ — 200 гадоў з дня нараджэння П. Я. Чаадаева (1794—1856), рускага мысліцеля, сябра А. С. Пушкіна.**

**— 105 гадоў з дня нараджэння Юзафа Галомбака (1889—1939), польскага філолага-славіста, гісторыка літаратуры, доктара філасофіі і філалогіі, даследчыка беларускай літаратуры, фальклору і этнаграфіі.**

**8 ЧЭРВЕНЯ — 1924—1933 — выходзіў часопіс гумару і сатыры «Авадзень».**

**— 60 гадоў назад (8—14 чэрвеня 1934 г.), адбыўся І Усебеларускі з'езд пісьменнікаў.**

**10 ЧЭРВЕНЯ — 1564 — У Бярэсці выдадзены адзін з першых друкаваных свецкіх твораў у Беларусі — «Размова паляка з ліцвінам».**

**— 75 гадоў з дня нараджэння (1919) А. С. Дзеружынскага, беларускага паэта.**

**12 ЧЭРВЕНЯ — 100 гадоў з дня нараджэння Сакена Сейфуліна (1894—1938), казахскага пісьменніка, грамадскага дзеяча.**

**— 60 гадоў з дня нараджэння (1934) А. С. Яскевіча, беларускага літаратуразнаўца, крытыка.**

**15 ЧЭРВЕНЯ — 400 гадоў з дня нараджэння Нікала Пусэна (1594—1665), французскага жывапісца, пачынальніка і буйнейшага прадстаўніка класіцызму ў еўрапейскім жывапісе XVII стагоддзя.**

**16 ЧЭРВЕНЯ — 160 гадоў з дня нараджэння А. К. Ельскага (1834—1916), беларускага пісьменніка, гісторыка, этнографа, краязнаўца, публіцыста.**

**— 100 гадоў з дня нараджэння Махмуда Тэймура (1894—1973), арабскага пісьменніка (Егіпет).**

**17 ЧЭРВЕНЯ — 130 гадоў з дня нараджэння А. А. Шахматава (1864 —1920), рускага мовазнаўца, які запісваў беларускі фальклор.**

**19 ЧЭРВЕНЯ — 70 гадоў з дня нараджэння (1924) В. У. Быкава, народнага пісьменніка Беларусі.**

**21 ЧЭРВЕНЯ — 130 гадоў з дня нараджэння А. К. Сержпутоўскага (1864—1940), беларускага этнографа і фальклырыста.**

**— 60 гадоў з дня нараджэння В. К. Хаўратовіча (1934—1991), беларускага паэта.**

**22 ЧЭРВЕНЯ — 1941 — Пачатак Вялікай Айчыннай вайны.**

**— 115 гадоў з дня нараджэння Ю. М. Дрэйзіна (1879—1942), беларускага музыказнаўца, педагога, публіцыста, перакладчыка.**

**— 75 гадоў з дня нараджэння (1919) І. І. Сіняўскага, беларускага пісьменніка.**

**24 ЧЭРВЕНЯ — 30 гадоў назад (1964) у вёсцы Цімкавічы Капыльскага раёна адкрыты народны музей Кузьмы Чорнага.**

**26 ЧЭРВЕНЯ—75 гадоў з дня нараджэння (1919) П. І. Гарэцкага, украінскага паэта, перакладчыка беларускай літаратуры.**

**— 20 гадоў назад (1974) Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР Мінску было прысвоена ганаровае званне «Горад-герой».**

**27 ЧЭРВЕНЯ — 190 гадоў з дня нараджэння Рафала Слізеня (1804—1881), беларускага мастака, медальера, архітэктара.**

**— 85 гадоў з дня нараджэння Сяргея Знаёмага (сапр. С. З. Клопаў; 1909—1937), беларускага пісьменніка.**

**— 60 гадоў з дня нараджэння (1934) В. Ф. Карамазава, беларускага пісьменніка.**

**29 ЧЭРВЕНЯ — 1504 — Утварэнне Полацкага ваяводства.**

## «БЕЛАРУСКАЯ КНІГА — 94» ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСЬ»



Пісьменнік Уладзімір АРЛОЎ

**Уладзімір АРЛОЎ: «ТАЯМНІЦЫ ПОЛАЦКАЙ ГІСТОРЫІ». Мастак Г. І. Мацур. Выдавецтва «Беларусь».**

**Кніга запрашае ў падарожжа па старонках полацкай даўніны з часоў паганства да пачатку XX ст. Аўтар расказвае пра асоб і падзеі, якія доўгія гады замоўчваліся афіцыйнымі гісторыкамі. Чытач даведаецца пра незалежную Полацкую дзяржаву і лёс нацыянальнай рэліквіі — крыжа святой Еўфрасінні, пра дзейнасць у Полацку ордэна езуітаў, падзеі 1812 года, Полацкі кадэцкі корпус.**

**Кніга адрасавана старшакласнікам і студэнтам, а таксама ўсім, каму дарагія гісторыя і будучыня найстаражытнейшага беларускага горада.**

**Кніга выдадзена пры ўдзеле Полацкай асацыяцыі дзяржаўных прадпрыемстваў «Ініцыятыва» і Полацкага камбіната будаўнічых матэрыялаў. Ідэя выдання належыць старшыні асацыяцыі народнаму дэпутату Беларусі Уладзіміру Цялежнікаву.**

***Паважаны чытач, прапануем Вашай увазе ўводны артыкул аўтара кнігі «ТАЯМНІЦЫ ПОЛАЦКАЙ ГІСТОРЫІ» — Уладзіміра АРЛОВА***

### ПРЫЗНАННЕ Ў ЛЮБОВІ

**Любоў да горада нагадвае каханне да жанчыны.**

**Гэта вялікае шчасце, калі недзе ёсць горад, які чакае цябе, каб затуліць крылом спакою і зрабіць мацнейшым. Горад, чыё імя ты часта паўтараеш у думках, як імя блізкага чалавека, шукаючы і заўсёды знаходзячы нейкі патаемны сэнс з усё новымі і новымі адценнямі: чуеш у ім то ціхамірнае цурчанне Палаты з яе расчасанымі плынню зялёнымі «русалчынымі косамі», то ваяўнічы поступ полацкіх палкоў, то вусцішны гуд полымя над абложанымі ворагам замкамі...**

**Любоў да горада — вялікая таямніца, у якой нялёгка прызнацца.**

**І ўсё ж я адважваюся зрабіць гэта. Маім прызнаннем будзе кніга, якую вы трымаеце ў руках.**

**Пра мой горад выйдзе яшчэ мноства кніг, але думаю, што напісаць адну з іх маю права і я. Бо радзільня, дзе я з'явіўся на свет, месцілася на Верхнім замку, за нейкую сотню крокаў ад Сафійскага сабора, куды, як казала мама, выходзілі вокны палаты (значыцца, званіцы і крыжы святое Сафіі — маё, няхай сабе і неўсвядомленае, але першае ўражанне аб навакольным свеце). Бо нашай улюбёнаю дзіцячай гульнёй былі пошукі лёхаў, што ў сярэднявеччы выводзілі з полацкіх сабораў на другі бок Дзвіны. Бо, пачынаючы гадоў з сямі, мы з сябрамі натхнёна займаліся на дзвінскіх берагах археалагічнымі даследзінамі, і шчодрая рака пасля кожнае паводкі дарыла нам то старадаўнюю манету, то проста ржавыя жалязякі, якія здаваліся нам наканечнікамі дзідаў. Бо Дзвіна навучыла мяне плаваць і берагла, калі я, схаваўшы адзенне на беразе пад перакуленым чоўнам, упершыню пераплываў яе, не ведаючы, што тут, насупраць Сафійкі,— самая вірыстая мясціна. Бо на нашых дзіцячых вачах узрывалі Мікалаеўскі сабор, і мы ўжо разумелі, што чыніцца злачынства. Бо тут, у Полацку, я першы раз закахаўся, адсюль паехаў вучыцца на гістарычны факультэт Беларускага універсітэта, тут упершыню скакаў праз купальскае вогнішча і напісаў свае першыя вершы і апавяданні. Бо і цяпер у маёй менскай кватэры мне часта здаецца ўранні: вось падыду да вакна, а за ім — зялёныя берагі і поўныя, як вока, вясновая Дзвіна.**

**Бо Полацк — радзіма маёй душы.**

**Мне хочацца, каб, чытаючы гэтую кнігу, вы пачулі непараўнальны пах выцвілых пергаментаў, і гаману полацкага веча, і артылерыйскую канананаду часоў Напалеона... Каб, прачытаўшы яе, ніхто не моршчыў бы лоб, пакутліва ўспамінаючы, што яму вядома пра дойліда Іаана, ювеліра Лазара Богшу або князя Усяслава Чарадзея. Буду ўсцешаны, калі нехта паспрабуе намаляваць сваё радаводнае дрэва, нехта захоча падняцца ў келлю святой Еўфрасінні, а нехта засядзе ў бібліятэцы ці ў архіве, збіраючыся раскрыць пакінутыя полацкай гісторыяй шматлікія таямніцы.**

**Гэта не падручнік і не навуковае даследаванне. У сваім аповядзе я буду забягаць наперад, у сучаснасць, і зноў вяртацца ў далёкія стагоддзі. Буду выказваць небясспрэчныя гіпотэзы і меркаванні.**

**Я не абяцаю, што скажу пра Полацк усё — на гэта не хопіць і сотні тамоў. Але я абяцаю вам сказаць шмат новага, знаёмага дагэтуль толькі вузкаму колу гісторыкаў. Абяцаю распавесці пра таямніцу крыжа Еўфрасінні і пра загадкавы лёс найбагацейшай бібліятэкі Сафійскага сабора, пра Полацкі кадэцкі корпус і пра той час, калі Полацк быў сталіцай ордэна езуітаў...**

**У нашым мінулым Чорныя летапісцы вельмі часта перамагалі Белых і нішчылі ці надзейна хавалі праўдзівыя Белыя кнігі, падмяняючы іх сваімі хлуслівымі хронікамі, напісанымі па загадзе тых, хто пры ўладзе. Таму не дайшоў да нас Полацкі летапіс. Таму асветнікі былі ў чорных спісах цемрашалаў, а маскоўскія цары-тыраны абвяшчаліся нашымі вызваліцелямі. Праўдзівая гісторыя вяртаецца да нас толькі цяпер — уваскрашаючы наш гонар, даючы веру ў будучыню, робячы беларусаў з бяспамятнага насельніцтва зноў еўрапейскім народам.**

**У гарадоў, як і ў людзей, ёсць душы.**

**Нягледзячы на нягоды і ліхалецці, Полацк захаваў у сваёй душы чысціню і высакароднасць. Ён здольны вылечыць ад жыццёвай мітусні і прымусіць падумаць пра вечнае, успомніць, хто мы, адкуль і куды ідзём.**

**Калі нехта, загарнуўшы апошнюю старонку, палюбіць мой горад трошкі мацней, а хтосьці проста захоча прыехаць, каб упершыню пахадзіць па ягоных вуліцах,— я буду ведаць, што дні, у якія пісаў гэтую кнігу, пражытыя недарэмна.**

**Пачынаючы яе, яшчэ раз гляджу на старажытны полацкі герб над маім сталом. Пад чыстым блакітным небам плыве праз стагоддзі па дзвінскіх хвалях карабель з напоўненымі ветрам вятрыламі...**




**Герб Полацка, зацверджаны пасля атрымання горадам магдэбургскага права.**





**НА РЭПРАДУКЦЫЯХ:**
**Найпадобнейшая Еўфрасіння, ігумення Полацкая. Гравюра XIX ст. паводле старажытнага вобраза.**
**Старонка Жыція Еўфрасінні Полацкай па спісе XVII стагоддзя.**
**Вокладка кнігі Уладзіміра Арлова «Таямніцы полацкай гісторыі»: фрэска Спаса-Еўфрасіннеўскай царквы (слайд Георгія Ліхтаровіча).**
**Партрэт Францішка Скарыны з кнігі «Ісус Сірахаў».**
**«Бивлия руска».**






## «БЕЛАРУСКАЯ КНІГА — 94»

«БЕЛАРУСКІЯ ПІСЬМЕННІКІ» — Біябібліяграфічны слоўнік у 6 тамах, том 3 пад рэд. прафесара А. В. Мальдзіса. Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі Навук Рэспублікі Беларусь. Выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя П. Броўкі.

Гэтае выданне — настольны даведнік для ўсіх, хто займаецца і цікавіцца беларускай культурай. У ім змешчана больш за 1100 артыкулаў з поўнымі, усебаковымі і сістэматызаванымі звесткамі пра жыццё і дзейнасць усіх прадстаўнікоў беларускай літаратуры, якія пісалі на старaславянскай, беларускай, рускай, лацінскай, польскай і іншых мовах Беларусі. У біяграфіях прадстаўлена звыш 600 тыс. розных публікацый.

Мікола ЕРМАЛОВІЧ: «СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСЬ. Віленскі перыяд». Мінск, выдавецкі цэнтр «Бацькаўшчына», МП «Бесядзь».

Гістарычны нарыс Міколы Ермаловіча з'яўляецца працягам кнігі «Старажытная Беларусь. Полацкі і Новагародскі перыяды», якая была адзначана Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь і Літаратурнай прэміяй імя Кастуся Каліноўскага і заваявала трывалую папулярнасць у чытачоў. У новай кнізе аўтар вядзе гаворку пра Віленскі перыяд старабеларускай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага. М. Ермаловіч працягвае сваю надзвычай каштоўную для асэнсавання нашай мінуўшчыны працу.

Мэта выдавецкага цэнтра «Бацькаўшчына» — праз добрую кнігу спрыяць павагу беларусаў да сваёй гісторыі, культуры і мовы, абуджаць нацыянальную годнасць.

«РОДНАЯ ЛІТАРАТУРА. Хрэстаматыя для X класа сярэдняй школы». Склалі У. Р. Боган, В. А. Каваленка і У. І. Ляпёшкін. Выдавецтва «Мастацкая літаратура». Друкуецца па выданні: «Родная літаратура». 14 выд.— Мн.: «Народная асвета», 1992.

У зборнік увайшлі творы Янкі Купалы, Якуба Коласа, Кандрата Крапівы, Кузьмы Чорнага, Міхася Лынькова, Петруся Броўкі, Пятра Глебкі.

«БЕЛАРУСКАЯ МОВА. Практычны дапаможнік для абітурыентаў». 2-е выд., дапрац. і дапоўненае. Э. Д. Блінава, Н. В. Гаўрош, М. Ц. Кавалёва і іншыя. Выдавецтва «Вышэйшая школа».

Уключаны асноўныя арфаграфічныя і пунктуацыйныя правілы, якімі неабходна авалодаць для













паспяховай здачы пісьмовага экзамену па беларускай мове. Прыводзяцца практыкаванні для трэніроўкі, замацавання самакантролю навыкаў, тэксты для дыктантаў. У канцы кнігі змяшчаюцца адказы да практыкаванняў.

Мікола КУСЯНКОЎ: «ЯВАР З КАЛІНАЮ». Раман, апавяданні. Выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Раман «Явар з калінаю» пра тое, як няпроста даецца яго маладым героям — Івану Гаркушу і яго будучай жонцы Зоі іх узаемнае зблiжэнне. Здаецца, не так іх уласная, як нейкая вышэйшая воля няўхільна скіроўвае іх насустрач адно аднаму, наканоўваючы кожнаму з іх адолець сваю нялёгкую палову шляху. Гэтыя складаныя «дасямейныя» адносіны герояў прыпадаюць на самы пачатак 50-х гадоў і вызначаюць асноўнае дзеянне рамана. А галоўнае ў яго змесце — праблема чалавечага, і ў прыватнасці жаночага лёсу ў канкрэтных грамадскіх умовах пасляваеннага і пазнейшага часу, праблема лёсу роднай зямлі.

Мастак М. М. Грыбаў.

«МАЛЫ МАТЭМАТЫЧНЫ СЛОЎНІК» — У. Т. Воднеў, А. Ф. Навумовіч, Н. Ф. Навумовіч. Выдавецтва «Універсітэцкае».

Уключаны тэрміны, паняцці, азначэнні, якія ўжываюцца у школьным курсе матэматыкі. Прыведзены асноўныя матэматычныя формулы, фармулёўкі тэарэм.

Разлічаны на вучняў сярэдніх школ, настаўнікаў, слухачоў падрыхтоўчых аддзяленняў ВНУ, выкладчыкаў ВНУ і сярэдніх навучальных устаноў.

И. Е. БАСИХЕС, О. А. РУДОМЕТОВ: «ПТИЦЫ В НАШЕМ ДОМЕ». Выдавецтва «Ураджай».

Свет птушак захапляльны. Узаемаадносіны з імі пашыраюць нашы веды аб прыродзе, дазваляюць лепш яе зразумець. Многія аматары трымаюць дома канарэяк, папугаяў і іншых птушак. Пра тое, як арганізаваць хатні заалагічны куток, якіх птушак лепш размясціць у ім, як даглядаць, стварыць умовы для іх размнажэння, прыручыць да дамашняга утрымання, расказваецца ў гэтай кнізе.

Для шырокага кола чытачоў.

Мастак Ю. Н. Галкін.

Мікола МАЛЯЎКА: «ДЗЕ ЖЫВУЦЬ КАЗКІ». Мастак С. Рыжыкава. Выдавецтва «Юнацтва».

Кніга складаецца з вершаў і казак, якія выдаваліся раней і прыйшліся па душы маленькаму чытачу. Зацікавяць і новыя творы паэта, якія васпяваюць родны край, свет, працу, дружбу дзяцей.












# «Я не самотны...»

*У краіне светлай, дзе я ўміраю,*
*У белым доме ля сіняй бухты,*
*Я не самотны, я кнігу маю*
*З друкарні пана Марціна Кухты.*
МАКСІМ БАГДАНОВІЧ




***У выдавецтве «Мастацкая літаратура» рыхтуецца да друку раман-даследаванне Яўгена МІКЛАШЭЎСКАГА «КАХАННЕ І СМЕРЦЬ, АБО ЛЁС МАКСІМА БАГДАНОВІЧА».***

***У кнізе на падставе як вядомых успамінаў бацькі і сучаснікаў паэта, так і невядомых архіўных матэрыялаў аўтар даследвае жыццё і творчы шлях Максіма Багдановіча.***

***Прапануем увазе чытачоў урывак заключнага раздзела кнігі «Я НЕ САМОТНЫ...»***

Сярод нешматлікіх рукапісаў Максіма, якія «знайшоў» Адам Багдановіч у ялцінскім пакоі сына, быў і «Вянок». Гэты экземпляр свайго зборніка паэт, пакідаючы Яраслаўль, узяў з сабою ў Мінск, а потым і ў Ялту, і працягваў працу над вершамі, якія лічыў недапрацаванымі. І той экземпляр «Вянка», у якім ён спрабаваў абгладзіць другую палову вершаў, атрымаў назву «Вянок»-1 («Вянок» нумар адзін»). Акрамя таго, пад кожным вершам зборніка паэт «зазначаў» памер і ставіў дату, а пад першымі трыма даў і строфіку.

«Вянок»-1 застаўся ў Яраслаўлі, у куфэрку, які ў час пажару 1918 года спачатку падмок (калі ў пограбе ад агню растаў лёд), а потым часткова абгарэў разам з рукапісамі, якія былі ў ім.

Экземпляр «Вянка», які Багдановіч захапіў з сабою (ён атрымаў назву «Вянок»-2 і пасля смерці паэта захоўваўся ў бібліятэцы бацькі) меў даравальны надпіс: «Милому человеку и товарищу по работе Ивану Григорьевичу Огурцову от автора. Ярославль. 1914—20/Ш».

«Гэты экземпляр па невядомай прычыне паэт не адаслаў яраслаўскаму прыяцелю і выкарыстаў для далейшай работы над тэкстам»,— сцвярджаюць аўтары каментарыяў да другога двухтомнага Збору твораў паэта (1968).

Адсылаць «Вянок» Івану Агурцову ў Максіма не было патрэбы: ён тады актыўна супрацоўнічаў з рэдакцыяй яраслаўскай газеты «Голос», у якой Агурцоў працаваў адказным сакратаром, і часта з ім сустракаўся (часам па некалькі разоў на тыдзень).

Агурцоў успамінаў: «Аднойчы М. А. (Максім Адамавіч) прынёс мне вельмі кепска выдадзеную кніжачку сваіх вершаў («Вянок»), гэта быў падарунак з аўтографам. Я з цікавасцю праглядзеў зборнік, сёе-тое, што мяне асабліва зацікавіла, адзначыў і, паміж іншым, у наступную сустрэчу выказаў М. А. недаўменне:

— Чаму Вы, народны беларускі паэт, напоўнілі Вашу кніжачку санетамі, рандо, трыялетамі і іншымі чужымі народу формамі? Акрамя таго, Вы да кожнага верша далі па эпіграфу ледзь не на ўсіх еўрапейскіх мовах. Навошта гэта?

Максім Багдановіч пачаў, хвалюючыся, горача даказваць, што менавіта гэта і патрэбна было зрабіць:

— За беларускай мовай не хочуць прызнаць самастойнасці і самабытнасці. Не хочуць дапусціць і думкі, што на гэтай мове можна выказаць усе рухі чалавечай душы і даць любую літаратурную форму. Я сваёй кніжачкай хацеў паказаць, што ўсё гэта магчыма. А для гэтага патрэбна было беларускую мову паставіць побач з еўрапейскімі мовамі.

Гэтыя ўспаміны напісаны ў 1923 — 1926 гадах.

У сакавіку ж 1914 года Іван Агурцоў, трэба думаць, не лічыў Максіма Багдановіча беларускім народным паэтам. Што ён думаў і пра «Вянок» і пра мову, на якой напісаны вершы, сведчыць невялікая рэцэнзія Агурцова, надрукаваная ў сто дваццаць трэцім нумары газеты «Голос» (газета выйшла 31 мая 1914 года):

«Кніжачка вершаў на беларускай гаворцы, якая ляжыць перад намі, ілюструе імкненне беларускай інтэлігенцыі да «нацыянальнага» пад'ёму роднай літаратуры, калі наогул можна гаварыць пра беларускую літаратуру. Разам з тым зразумелае імкненне ўсунуць галіну беларускай творчасці ў агульнае рэчышча літаратуры».

Колькі ў гэтай невялічкай прэамбуле да такога ж невялічкага агляду першай кніжкі вершаў свайго калегі-прыяцеля і знявагі і пагардлівасці, але дачытаем рэцэнзію да канца:

«Аўтар кніжкі, якую мы рэцэнзуем, не абмяжоўвае сябе вузкім колам «народных» сюжэтаў, як гэта назіралася ў Беларусі дасюль. У зборніку бачым мноства сюжэтаў і вершаваных формаў. Як па сюжэтах, так і па апрацоўцы вершы Багдановіча нічога спецыфічна «народнага» не маюць, калі не прымаць увогуле пад увагу прастату яго твораў. Несумненна, гэтыя творы — прадукт агульнай «інтэлігенцкай» літаратуры і разлічаны яны, відавочна, не на простага чытача: кніжка стракаціць іншаземнымі эпіграфамі».

А я ў захапленні цытую: —«Чаму Вы, беларускі народны паэт...» Вось яны сапраўдныя адносіны да «беларускага народнага паэта»! Словы нацыянальны, народны, інтэлігенцкі аўтар гэтай рэцэнзіі ўжывае толькі ў двухкоссі.

«Не бярэмся меркаваць, на колькі вершы п. Багдановіча звязаны з «нацыянальнай» псіхалогіяй беларуса, але такія вершы, як «Слуцкія ткачыхі», з'яўляюцца, безумоўна, водгукам народнай душы. Гэты чароўны верш нават для чалавека, не знаёмага з беларускім дыялектам, адкрывае сапраўдную прыгажосць выяўлення на такой, здавалася б, грубай гаворцы, якая да таго ж не паддаецца апрацоўцы. Цудоўна перададзены настрой «бяздольных» ткачых, узятых у панскі двор «ткаць залатыя паясы». За сцяной «смяецца поле», ззяе неба за акном, а яны сядзяць і ткуць, перажываючы за станкамі розныя ўражанні «ясных далячыняў», якія сінеюць «яснымі васількамі».

**«Цямнее край зубчаты бора...**
**І тчэ, забыўшыся, рука**
**Заміж персідскага узора**
**Цвяток радзімы васілька».**

Фактычна Іван Агурцоў пахваліў толькі адзін верш з усёй кнігі, сказаўшы ўголас пра тое, што думае ён і пра родную мову паэта і пра сам беларускі народ.

Не трэба валодаць асаблівай фантазіяй, каб уявіць, як глыбока зняважыла рэцэнзія Агурцова самыя лепшыя пачуцці Максіма і якую вялікую крыўду нанесла яму.

Хто возьме на сябе смеласць сказаць, якая гаворка адбылася між імі пасля таго, як Максім Багдановіч прачытаў рэцэнзію? А ён умеў «узрывацца» гэтак жа хутка і нечакана, як і адыходзіць. Умеў дараваць, як і выказваць у вочы сваё абурэнне. І, выказаўшы з горыччу крыўду, ён папрасіў вярнуць яму зборнік ці, можа, бачачы, што падпісаная ім таварышу кніжка, як непатрэбная, перакідаецца ў рэдакцыі, узяў яе ціха, не сказаўшы нікому ні слова. І моўчкі перанёс на сабе гэтую крыўду, як перад гэтым і крыўду на свайго рэдактара за розныя шматлікія памылкі, якія «прайшлі праз недагляд карэктуры», і асабліва за пераблытаныя ў «Вераніцы» строфы. Па прызнанні самога Ластоўскага, Максім Багдановіч выказаў яму ў сваім даўжэзным лісце вялікае нездавальненне.

І што ж Ластоўскі?

«Віна была мая, але я не чуўся вінаватым, што і тлумачыў аўтару ў сваім лісце».

Шкада, што і мы не можам зараз выслухаць гэтае тлумачэнне. Аднак, па прызнанні рэдактара, часовая «астуда» ў іхніх «стасунках хутка была згладжана», і зноў у Ластоўскага з Максімам «завязалася перапіска, якая цягнулася да лета 1914 года (у архіве Багдановіча захоўвалася дваццаць лістоў ад Ластоўскага). І згладжана была, безумоўна, па ініцыятыве Максіма. І не толькі з Ластоўскім, але і, відаць, з Агурцовым, як і з усімі, з кім разам жыў ці сустракаўся Багдановіч.

...Аслабелы, ён ляжаў на сваім ложку з «Вянком» у руках, і кожны верш навяваў дарагія сэрцу ўспаміны і адгукаўся ў ім смуткам і болем, а то і незразумелай уцехай, што, нягледзячы на жорсткі, няўмольны лёс, ён штосьці паспеў зрабіць. І гэтая думка ратавала яго ад смяротнай тугі і самоты.

## «БЕЛАРУСКАЯ КНІГА — 94» ВЫДАВЕЦТВА «ПОЛЫМЯ»

**Вітаўт ЧАРОПКА: «ІМЯ Ў ЛЕТАПІСЕ». Прадмова А. М. Сідарэвіча; мастак А. А. Александровіч; фотарэпрадукцыі В. Я. Савіча. Выдавецтва «Полымя».**

**Аўтар распавядае пра гістарычных дзеячаў мінулага Беларусі: Рагвалода, Рагнеду, Святаполка Тураўскага, Брачыслава Ізяславіча, Усяслава Чарадзея, Глеба Менскага, Рагвалода Барысавіча, Уладзіміра Полацкага, Віценя, Гедыміна, Альгерда, Кейстута і інш. Асэнсоўваецца роля Беларусі ў палітычным жыцці Еўропы X—XV стст. Чытач даведаецца пра барацьбу Полацкага княства за сваю незалежнасць, пра ўтварэнне Вялікага княства Літоўскага, войны беларуска-літоўскай дзяржавы з Тэўтонскім ордэнам, Залатою Ардою, Маскоўскім княствам, Польшчаю. Прыводзіцца шэраг малавядомых гістарычных фактаў, якія абвяргаюць прызвычаяныя догмы.**

**Разлічана на старшакласнікаў, студэнтаў ВНУ і ўсіх, хто цікавіцца і хоча ведаць беларускую мінуўшчыну.**

НА РЭПРАДУКЦЫЯХ:
Вокладка кнігі Вітаўта Чаропкі «ІМЯ Ў ЛЕТАПІСЕ».
Абраз Вострабрамскай Божай Маці, прывезены Альгердам з Карсуня,
Рагвалодаў камень. XII ст.

### Вітаўт ЧАРОПКА

#### АД АЎТАРА

**Іншы раз, калі гартаеш кнігі па гісторыі Беларусі, так хочацца за фактамі і датамі гістарычных падзей убачыць людзей, пра якіх у летапісах, або дакументах, або манаграфіях напісана толькі некалькі радкоў, даведацца пра тое, як яны жылі, чаму радаваліся і аб чым сумавалі, прачытаць хоць адно моўленае імі слоўца, паглядзець на іх партрэты, каб наблізіць да сябе той далёкі час і стаць сведкам усяму што некалі адбывалася.**

**Нічога новага не адкрыю, калі скажу, што гісторыя — гэта не толькі даты падзей і ясныя, на падставе сведчанняў сучаснікаў, факты (хаця іх, безумоўна, трэба ведаць, каб хтосьці не спекуляваў на гістарычнай неадукаванасці народа), але і духоўны скарб, які стагоддзямі збіраўся народам і жывіць ягоную памяць, абуджае нацыянальную свядомасць. Гэта таксама маральныя ўрокі, што засцерагаюць нас ад паўтарэння памылак. Гэта і запавет любіць і шанаваць сваю Бацькаўшчыну, запавет, перададзены нам бацькамі і дзядамі.**

**Уся дакастрычніцкая гісторыя Беларусі ў выкладанні школьных падручнікаў уяўляе сабой міфы пра так званую заваёву Беларусі літоўскімі феадаламі, адпаведна жорсткі прыгнёт беларусаў і іх векавую мару ўвайсці ў Расійскую імперыю, міфы аб занядбанасці культуры і асветы, у параўнанні з якімі гэтак грандыёзна выглядаюць дасягненні паслякастрычніцкага часу — шматлікія перамогі (калгаснага ладу, індустрыялізацыі) і росквіты (культуры, навукі і г. д.). Закутаўшыся ў вопратку праўды, пані догма водзіць за ручку многіх нашых гісторыкаў, і яны загіпнатызавана крочаць па зачараваным коле. Гіпноз пазбаўляе іх волі, свайго розуму, свайго меркавання.**

**У дагоду догме аб беларускай гісторыі адлучылі палітычных і вайсковых дзеячаў нашага мінулага. Адных, як выдатнага важара, пераможцу шведскіх і турэцкіх войскаў Яна-Карла Хадкевіча або Льва Сапегу, што падрыхтаваў Трэцяе выданне «Статута Вялікага княства Літоўскага», называлі польскімі феадаламі, другіх, напрыклад, вялікіх князёў літоўскіх, толькі па тытулу прылічылі да літоўцаў, ігнаруючы іх беларускае паходжанне, беларускія імёны, тое, што размаўлялі яны ў сваім жыцці па-беларуску; трэціх — Усяслава Чарадзея, Канстанціна Астрожскага — адносілі да рускіх, хаця ў рускіх летапісах полацкія князі называюцца крыўскімі, а гетман Астрожскі ніколі не служыў рускім. Найчасцей усе яны паўставалі «жорсткімі прыгнятальнікамі беларускага народа». А гэтыя «прыгнятальнікі» са зброяю ў руках баранілі Беларусь ад ворагаў, гінулі ў сечах за вольную Бацькаўшчыну, выдавалі кнігі, будавалі храмы, зберагалі і ўзбагачалі нашу спадчыну. І лёс не быў да іх літасцівы. Зведалі яны страты, і прыніжалі іх, і кідалі ў вязніцы, рэдка каго з іх абрала сваім улюбёным слава, многія ізгоямі жылі ўдалечыні ад Айчыны і часта, што задумвалі здзейсніць, не ажыццявілі. Яны былі сынамі свайго часу, а таму не пазбаўлены прымхаў і грубасці, жорсткасці і фанабэрыі. Добрае і злое, нізкае і высокае жывуць у чалавеку.**

**Я думаю пра герояў маёй кнігі. Памяць пра іх — гэта памяць і пра нас, нашчадкаў мінулай славы і дзеяў: забудземся іх — не ўспомняць і нас тыя, хто ідуць следам.**


# « Кнігарня »

— інфармацыйна-рэкламная газета. Выходзіць на беларускай і рускай мовах два разы на месяц.

Заснавальнікі: Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь, Савет дырэктараў выдавецтваў, кнігагандлёвая фірма «Белкніга».

Адрас рэдакцыі: 220600, г. Мінск, пр. Машэрава, 11. Пакой № 1106.





Галоўны рэдактар Т. П. ДЗМІТРУСЕВА.

Газета надрукавана афсетным спосабам на Мінскай паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» МВПА імя Якуба Коласа.

(1220079, г. Мінск, 1-ы Загарадны завулак, 3).

НУМАР ПАДПІСАНЫ ДА ДРУКУ 30.05.1994 г. у 15 г. Зак. 1288. Індэкс 63864.

Тыраж 2000 экз.